КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА

Анатоль Брусевіч

# Апошні дзень

*Вершы*

Мінск, «Кнігазбор», 2013

УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)-5
Б89

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 32.*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Брусевіч, А.**
Б89 Апошні дзень : вершы / Анатоль Брусевіч. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 136 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 32).
ISBN 978-985-7047-18-4.

Кніга «Апошні дзень» ужо адной сваёй назвай здольная выклікаць змрочныя асацыяцыі. Аднак вершы, якія змешчаны тут, поўняцца не толькі цемрай трывогі, але і святлом надзеі. Яны балансуюць на хісткай мяжы — паміж напаўразбуранай традыцыяй і нечым невядомым. Невядомае заўсёды пужае, фарбуючы светаадчуванне ў чорныя і шэрыя колеры, прымушае бегчы без аглядкі. Традыцыя дазваляе спыніцца, азірнуцца і паслухаць галасы мінулага...

«Апошні дзень» — спроба пэўнага падсумавання. З надзеяй, што прыйдзе ДЗЕНЬ НОВЫ.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7057-18-4**

* * *

Хлеб жыцця раздзялю напалову:
У бліскучым люстэрку нажа
Адлюструецца Боская воля —
Адзіноты халодны пажар.

Хлеб жыцця раздзялю і спаткаю
Здань віны, ад якой не ўцячы.
Толькі вочы не ўбачаць адчаю —
Іх даўно падзяўблі крумкачы.

* * *

Падымаюцца пешкі
На высокі Парнас.
Цень іх рэдкіх усмешак —
Нібы спынены час.
Узіраюцца моўчкі
У люстэрка віна,
Але вочы не хочуць
Піць свабоду да дна.
І зрываюцца пешкі
У глыбокі Аід...
Нараджаюцца вершы,
Нараджаецца міф.
Каб убачыць натхнення
Нараджэнне і скон,
Кіньце ў бездань імгнення
Абыякавасць дзён!

* * *

Нашто чакаць?
Смяецца чэрап поўні.
Навокал — ноч, і ўсім даўно ўсё роўна,
Нашто чакаць.

Куды ісці?
Дарога люстраная,
Таму ніхто з вандроўнікаў не знае,
Куды ісці.

Хто ты такі? —
Пыталіся ў паэта.
Паэт, як ноч, маўчаў усмешкай светлай.
Ён быў глухі...

* * *

Я — труп былога — там мяне няма.
Памерлы час вакол, нібы сцяна.

Каля мяне ні ценяў, ні людзей,
А толькі месяц плавае ў вадзе.

Стаміўся Бог ад белых думак зла,
Ляціць душа да чорнага святла.

Хай будзе ўсё экзотыкай, але
Я — труп былога — вершык на стале.

* * *

Чорную лямпу павешу —
Хай сабе свеціць.
Я не хачу быць першым
Нават па смерці.

Грэй мяне, чорная лямпа,
Цень абсалюту.
Грэй за зялёнай фіранкай
Стомлены смутак.

## Вёска

Ізноў вясна. Дажджлівая вясна.
І хоць шпакі на яблынях шчабечуць,
Самотна мне. Аблезлая пустэча
Скуголіць дварняком каля акна.

Чарнее дзень. Свінцовая вада
Схавала ўсё: людзей і іх праблемы,
Сцяну садоў, равеснікаў Эдэму,
І да нябёс ужо рукой падаць.

Ізноў я тут, дзе сумна без віна,
Дзе дрэвы ў хату просяцца пагрэцца,
Дзе дождж не ў шыбы стукае, а ў сэрца,
І Бога бачна з кожнага акна.

## Адбітак

Я бачыў у люстэрку не сябе —
Адбітак мой, які з мяне смяяўся.
Яго жыццё — мая недасканаласць.
Маё жыццё — ягоны антысвет.

Я бачыў твар, чужы, але не свой,
Усмешкаю нядобраю спавіты.
І я разбіў пракляты той адбітак.
Шкляная кроў запэцкала пакой.

# Гульня

Я ляпіў з пластыліну маленькіх людзей —
Чалавечкаў наіўных і кволых.
Кожны з іх на мяне, як на Бога, глядзеў,
Апусціўшы свой позірк дадолу.

Чалавечкі маўчалі, і я зразумеў:
Гэты свет не такі ўжо і шэры,
І зляпіў з пластыліну самога сябе,
Каб паставіць у цацачны шэраг.

## Промень

На падаконніку сумуе сонца промень,
Ну а само яно далёка ў небе.
Прысніўся промню лёгкі белы човен,
І сонца ў ім, як стомлены малебен,
Плыве па хвалях космасу і марыць
Пра падаконнік шэры і жалезны,
Дзе промень ціхім ранкам гаспадарыць,
А ноччу горка плача сярод лесу
Пачвараў-ценяў, свісту злога ветру
І моліцца на сонца і бяздонне,
На човен, што качаецца ў паветры,
І праклінае шэры падаконнік.

## Чорны квадрат

На белым-белым прасцірадле
Чарнее ноч.
А сярод ночы крыж зламаны
І ціхі дождж.
Уверсе поўня чорным свеціць,
Ды без святла
У сподзе бачны дзікі вецер,
Яшчэ імгла.
Усаджаны ў зямлю, бы ў цела,
Вялізны нож.
На прасцірадле белым-белым
Чарнее ноч.

* * *

У самога сябе спытаю:
Хто такі я ў гэтым жыцці?
Ты не той, хто павінен прыйсці.
У самога сябе спытаю:
Дык скажы, навошта я тут?
Ты не тут, і гэта — прысуд.
Гэты край цябе пакарае!
У самога сябе спытаю...
У самога сябе!

* * *

Я змірыўся, з чым не пагаджаўся.
Я стаміўся ад таго, чым жыў.
Я — той цень на сонечным асфальце,
Што губляе мой дурны язык.

Я забыў пра добрае і злое,
Што ўнутры цікуе кожны раз.
Горкі лёс яднае нас абоіх
Ланцугамі, горшымі за час.

## Акравершык, напісаны сабе

Баішся? Я ведаю гэта.
Разумная слава прайшла.
Убачу сляпога паэта —
Сябе як стваральніка зла.
Енк страчанай веры не чутны.
Вясёлыя мары — на дне.
Ізноўку жывая атрута
Чамусьці душу не кране.
Упартая доля скуголіць
Аб жахах, што прыйдуць да нас.
На шчасце, мне дорыць не доля,
А воля — прастору і час.
Таму і канчаецца сіла.
О розум, навошта яна?
Ляжыць у прыгожай магіле
Юнацкай надзеі труна.

## Плача восень

Плача восень маімі слязьмі.
Я смяюся восені смехам.
Адгукаецца соннае рэха
І самотны, здзічэлы язмін.

Плача восень маімі слязьмі.
На яе заплаканым твары
Адбіваюцца шэрыя хмары
І вясёлыя жоўтыя дні.

* * *

Вось і верш. Ты так яго чакаў.
Ды навошта ён табе, спытаю.
Вершаў звер стаіўся не ў радках,
А ў вачах таго, хто іх чытае.

Вось і верш. Ты чуеш ціхі спеў?
То на словы моліцца папера.
Вось і верш. Ты так яго хацеў
Упрыгожыць імем сваім шэрым.

## Жыццё ідзе

Жыццё ідзе. Зіма амаль на носе.
Пад вечар мерзнуць лужыны. Трава
У шэрані. Задумалася восень
І ўжо не плача тыдні, мусіць, два.

Мая радзіма — сіні бераг лесу,
Халодны сад і мілы жоўты дом,
Дзе я жыву ў наіўных, сціплых вершах,
Але аб тым не ведае ніхто.

Ізноў я тут. І весела, і сумна
Глядзець, як час люструецца ў вадзе,
Пасля знікае. Ціха і бязлюдна
Вакол мяне, але жыццё ідзе.

* * *

Мой дом празрысты, зроблены са шкла.
У ім я не схаваюся ад часу.
Затое ноччу бачу зорны шлях,
А ўдзень аблокаў танцы-выкрунтасы.

Мой дом наўрад ці зробіцца пустым.
Калі ж не стане болей мне паветра,
Пайду ў краіну зораў залатых,
А дом пакіну іншаму паэту.

* * *

Люблю, калі іграе ліра:
Не гукі — слёзы на шчацэ.
Пражыты час — нібы эпіграф
Да непражытага яшчэ.

Прабач, што сёння не з табою.
Хачу прыкінуцца адным.
Са мною смутак у пакоі
І цыгарэтны сіні дым.

* * *

Цемра рукою нябачнай
Ціха патушыць святло.
Божа, які я няўдзячны
Лёсу і слову «было».

Ноч. Я люблю гэты горад —
Чорны, бязлюдны, глухі.
Згублены некім учора
Стоенай роспачы гімн.

# Неба

Я люблю гэта неба — прыгожае, мяккае, шэрае,
Дзе імкненне заўсёды становіцца светлаю вераю.

Там — мой дом між сузор'ямі Шчасця, Кахання
і Вечнасці.
Я не быў там даўно, аж да гэтага ціхага вечара.

Там чакае мяне мой адбітак з люстэрка разбітага.
Я іду, а за мною сляды мае — словы і літары...

* * *

Чуеш мяккія крокі дажджу
За дзвярыма мінулай зімы?
Спяць дамы.

Бачыш слёзы засохлай душы?
Пастарайся мяне пераэжыць,
Я прашу.

Паглядзі на нябёсы і скінь
Абалонку зямную сваю
На зямлю.

Паглядзі. Там убачыш мяне.
Ты ніколі не бачыла? Не?
Плача сінь.

* * *

Я памру на прыступках да Бога,
Ля крыжа, пастаўленага мной.
Мне казалі: «Вунь твая дарога,
Вунь жыццё, і шчасце, і спакой».

Я ішоў дарогай той і верыў
Чэрствым словам, кінутым услед,
Бо душа — нібыта кніга вершаў,
Ад якой адмовіўся паэт.

* * *

Плакаў абраз.
На рассечаным твары Марыі
Слёзы застыглі жывыя,
Слёзы за нас.

Плакаў абраз.
Невялікі пясочны гадзіннік
Болей не дзеліць хвіліны.
Скончыўся час.

* * *

Мне сумна. Гляджуся ў люстэрка сусвету.
На вуліцу кліча мінулая мэта.
Лета.

Мне сумна. На прыступках страчанай веры
Сляды пакідае самотнага верша
Вершнік.

Мне сумна. Кранаю парваныя струны,
Ды гукі, якія зліваюцца з сумам,
Заснулі.

# Апошні дзень

Апошні дзень самотнага стагоддзя
Я змог пражыць з адчыненай душой,
І праз мяне ізноў прарос спакой,
Нібыта мох на вывернутым плоце,

І мары, што загінулі даўно,
Ускрэслі, каб не здзейсніцца ніколі.
Апошні дзень асунуўся паволі
Пяском жыцця на дно прыгожых сноў.

* * *

Хочаш, я стану ценем,
Які закрые самоту,
А потым,
Хочаш, я стану ценем,
Які надзённасць схавае
З адчаем?
Не хочаш? Тады я буду
Сонцам, якое спаліць
Памяць.

* * *

Ізноў чытаю Біблію.
Спіць вечар каля ног.
Жытнёвымі вачыма
Глядзіць распяты Бог.

Тры свечкі — сімвал вечнага,
Як зоры за акном.
Насупраць ноч укленчыла
З малітваю на сон.

А заўтра нехта здзівіцца,
Што на пустым крыжы
Маё імя — сем літараў
Без праўды і ілжы.

* * *

Восень амаль што.
Пішуцца сумныя вершы.
Ранкі халодныя. Ноччу не сплю ад дажджу.
Восень амаль што.
Сонца не бачна. А зрэшты,
Што з таго сонца? Ім не сагрэеш душу.

Восень амаль што.
Кроплі сцякаюць па шыбе.
З жоўтай лістотай падае жоўты настрой.
Восень амаль што.
Робяцца злымі, чужымі
Светлыя вуліцы нашай Гародні старой.

# Добра зноў

Добра быць Анатолем Брусевічам,
Добра жыць не штодзённым жыццём,
Піць віно і глядзець праз акно,
Захапляцца натхненнем і вечарам,
Разглядаць за празрыстай сінечаю
Жоўтай поўні засохлае дно,
Да высновы прыходзіць адной,
Што ад Бога ўсё — нават не вечнае.
Добра быць Анатолем Брусевічам,
Добра быць, добра жыць, добра зноў.

## Старыя вершы

Вершы старыя, нібыта старыя сябры, —
Добрыя, шчырыя, хоць і наіўныя часам.
Я з іх смяюся, ды толькі не тояць абразу
Вершы старыя, нібыта старыя сябры.

Вершы старыя ў забытых шуфлядах душы
Песцяць надзею на тое, што стану я іншым.
Не, я не стану героем ці рыцарам з кніжак,
Я пакідаю адных вас на гэтай мяжы.

Вершы старыя, прабачце, што стаў я другім,
Дрэнным і чэрствым, што вершы другія са мною.
Можа, вярнуся калі-небудзь з мёртвай душою
Моўчкі да вас, каб сканаць і ўваскрэснуць затым.

# Лістапад

Кінуць бы ўсё і ад'ехаць далёка-далёка
Першым аўтобусам прэч ад людской мітусні,
Больш каб не чуць непатрэбных заўваг
і папрокаў,
Каб усвядоміць, што ты гэты свет не прысніў.

Моўчкі хадзіць, падкідаючы ўгору лістоту,
Думаць і марыць на мове жаўцеючых дрэў,
Ціха спяваць і смяяцца з дурной адзіноты,
Потым смяяцца, паслухаўшы смех свой і спеў.

Потым пры лямпе нябёсаў, запаленай ветрам,
Верш напісаць і, шпурнуўшы яго ў лістапад,
Радасць адчуць і з настроем прыгожым
і светлым
Познім аўтобусам ноччу вярнуцца назад.

* * *

Я — не бераг, і я — не рака.
Я не той, хто цяпер перад Вамі.
Я — агонь у халодных радках,
І я лёд у радках пра каханне.

Так, я ўсюды, і разам нідзе.
Я не той, хто чытае Вам вершык.
Я — адбітак у шэрай вадзе,
У дажджлівым, заплаканым снежні.

* * *

Калі нарэшце памірае
Да ранку горад, я шчаслівы.
Люблю глядзець, як за фіранкай
Спявае вецер. Без матыву,
Без слоў, без музыкі. А песня
Аб тым, што горад уваскрэсне.
Але пакуль няма нічога.
Пустая, мёртвая дарога
Маўчыць, бы думае аб нечым...
Вось і прыйшоў нарэшце вечар.

* * *

Калісьці закончыцца ўсё
І стане на месцы свае.
Пайду толькі я ў небыццё —
Ад свету зямнога далей.

Адзін, бо не будзе сяброў.
Адзіны мой сябра — мой цень,
Які разумее без слоў
І ўсюды за мною ідзе.

Мы пойдзем па белай мяжы —
Між лёсам маім і яго,
Пакуль у паходні імжыць,
Не гасне свабоды агонь.

А згасне — закончыцца ўсё
І стане на месцы свае.
Пайду толькі я ў небыццё —
Ад свету зямнога далей.

* * *

Калі хочацца даравацЬ
Лютым ворагам і сябрам,
Разумееш: жыццё — турма,
Дзе няма ні зла, ні дабра.

Калі хочацца ўсё забыць
Ды заснуць і не бачыць сноў,
Адчуваеш, як час бяжыць
Брукаванкай халоднай слоў.

* * *

Я знішчыў ворагаў сваіх —
Ім дараваў злачынствы іх.
Бо сам такі ж, але мой Бог
Не змог стварыць мяне рабом.
Ён падарыў мне гэты свет
І так сказаў: «Ты — чалавек.
Ты навучыўся прабачаць.
Я зноў жыву ў тваіх вачах».

# Сімвал бяссмерця

Чорны крыжык — мой сімвал бяссмерця —
Я табе падарыў, але ты,
Перш чым браць, мне сказала, што веру
Я не мушу нікому дарыць.
Так, не мушу. Мой крыж — гэта вера.
Але ж ты — гэта я, дык павер:
Гэта ключ у нябачныя дзверы,
За якімі не знойдзе нас смерць.

* * *

Сёння Бог ад мяне адвярнуўся.
Я ж з усмешкай пакрочыў дадому.
Як смяяцца, калі нешта страціў?
Вам такое пакуль невядома.

Але з часам маленькая ўсмешка
Стане смехам, каб вы зразумелі,
Што смяяцца ніколі не грэшна.
Ну а Бог... Заўтра ён падабрэе.

## Мяжа

Лязо залатога нажа —
Мяжа.
Паміж небам і пеклам
Растуць бескалёрныя кветкі,
На жаль.
Нарву і спляту з іх вянок.
Мой Бог —
Ён таксама смяротны.
Мяжа паміж белым і чорным —
Аблок.

* * *

На шэрай паперы апошняга снегу
Вясна піша вершы слядамі маімі.
Адно толькі неба іх сэнс разумее,
Таму і самотна ў вачах яе сініх.

Таму і знішчае зайздроснае сонца
Паэзію снегу, каб я выпадкова
Не змог прачытаць у слядах сваіх сонных
Вядомыя небу таемныя словы.

* * *

Надзённасць патушыць апошнія зоры
Над вокнамі лепшых сяброў,
І прыйдзецца плыць ім у цесных і чорных
Каўчэгах па рэчцы з вянкоў.

І покуль рака з успамінаў і кветак
Не ўпала ў бушуючы Стыкс,
Надзённасці сінія тонкія вены
Парэж у пакоі пустым.

І будуць смяяцца анёлы і німфы,
І з сябрам абдымешся ты.
А потым пакажуцца жоўтыя рыфы
З нябёсаў, нібыта з вады.

* * *

Іду, а за мною ніякіх слядоў.
Сляды праглынае сухая лістота.
Мне мроіцца, быццам наперадзе дом,
А ў доме чакаюць майго надыходу.

Таму не баюся, што пройдуць гады,
А можа і меней, і ў момант якісьці
Мяне праглыне, нібы тыя сляды,
Апалае некалі бурае лісце.

* * *

І дзень і ноч на дол спадае
З нябёсаў чорная лістота.
Глядзяць з пакорлівым пытаннем
Уверх двухногія істоты.

І дзень і ноч не бачна свету
За чорным лісцем і пытаннем,
І тонуць моўчкі сілуэты
На дне сухога акіяна.

І дзень і ноч крычаць да болю
У сне паэты, а паяцы
Амаль не чуюць іхніх словаў:
«Эдэм засох. Куды вяртацца?»

* * *

Я зразумеў, што я — ніхто,
Мо нават горш, чым слова гэта.
Я — белы колер між радкоў
І больш не годны быць паэтам.

Прабач, Анёл, што верыў мне
І не караў, калі не верыў.
Я пакланіўся сатане,
Пайшоў у ноч, каб стацца зверам.

Цяпер я — звер, бо без душы.
Душа распалася на часткі.
І Бог, што сёння на крыжы,
Распяты ўчора з маёй ласкі.

І маці, што прынесла мне
Жыццё, натхненне, славу, волю,
Я выгнаў босую на снег,
Закрыўшы дзверы за сабою.

Пасля глядзеў, калі яна
Ляжала мёртвая пад плотам,
Як з лесу вылецеў груган
Крыві напіцца да ікоты.

У244 гругана пазнаў сябе,
Таму забіў яго, паскуду.
Цяпер ніхто больш не жыве
Ўва мне. І я там жыць не буду.

* * *

Ляжу на падлозе.
Валяецца побач бутэлька —
Маўклівая сведка былых перамог і параз.
Мне снілася Восень.
Але разбудзілі фіялкі
Ды ціха сказалі, што зараз другая пара.

І я зразумеў, што
Не ў час нарадзіўся на свеце.
Не ў час я прачнуўся і болей заснуць не змагу.
О Верасень, дзе ты?
Мне сумна бадзяцца па леце,
Бо кветкі чырвоныя так наганяюць тугу.

## Белыя вершы

Мае белыя вершы не знойдзеш ніколі —
Яны толькі ўва мне.
Мае белыя вершы гуляюць на волі,
Нібы цень на сцяне.

Мае белыя вершы не хочуць застыгнуць
На паперы, бы воск.
Мае вершы бялеюць на тварах жанчынаў
Дыяментамі слёз.

* * *

Не ратуюць ні вершы, ні восень
Ад свабоды, што цягне на дно.
Мой ахоўнік — анёл сінявокі
Адляцеў праз пустое акно.

Адляцеў і згубіўся навечна,
Хоць сказаў, што ляціць пагасціць.
Як балюча і як недарэчна
На свабоду асуджаным быць.

* * *

Крыштальнаю папяльнічкаю
На століку белым зімы —
Мой горад: акуркі-дамы
Дымяцца. Вугельчыкі знічак
Спадаюць у попел дарог
І гаснуць, як быццам бы Бог
З анёламі паляць «Сталічныя».

## Калыханка

Бераг далёкі туман закрывае.
Там пагубляліся ночы і дні.
Пазарасталі сцяжынкі да раю.
Спі!
Хутка на небе пачуюцца крокі,
І на зямлю з-пад замшэлых аблокаў
Словы спадуць «Не ўкрадзі», «Не забі».
Спі!

* * *

Аднойчы вечарам прастуджаным,
Апошнім вечарам зімы,
Кавалкі неба спалі ў лужынах.
З табою іх будзілі мы.

З-пад ног ляцелі пырскі сонныя,
А лямпы першых ліхтароў
Лавілі іх сваімі промнямі
І клалі ў лужыны ізноў.

І мы смяяліся ад гэтага,
Благія думкі йшлі на дно.
А горад, звыкла непрыветлівы,
Смяяўся з намі заадно.

* * *

Вы думалі, я задыхнуся
У вогнішчы Вашых вачэй?
Ды толькі на поўныя грудзі
Не дыхае знаўца людзей.
Вы думалі, з вуснаў міндальных
Каханне не вып’ю? Але
Заўсёды насуперак хвалям
Мой п’яны плыве карабель.

* * *

Хутка восень, бо верасень заўтра.
Вось і дождж ужо дзюбае шыбу.
Хай утопяцца ў лужынах радасць
І анёлаў-ахоўнікаў німбы!

Хай пад лісцем чырвоным і белым
Задыхнуцца і цені, і крокі,
Каб душу, што даўно не балела,
Разарвала на коскі і кропкі.

* * *

Жоўты дом сярод саду старога
Зарастае імглой і дажджом,
І не бачна ні неба, ні Бога
За патрэсканым шэрым акном.

Памірае халоднае лета
Між пушыстых вільготных вяргінь.
Ужо восенню пахне паветра.
Ужо верасень блізка зусім.

## Дэкаданс

*Акраверш*

Дарэмная справа здаваць
Экзамен прафесару Часу.
Клапоціцца Час, каб ва ўсіх
Адзнакамі двойкі былі.
Дарэмная справа чакаць
Адказ, бо не будзе адказу –
На сотню пытанняў тваіх
Самотна ўсміхнуцца нулі.

* * *

З неба халоднага, нізкага
Падаюць зоркі ў пакой,
Каб над пустымі калыскамі
Песні спяваць за ўпакой.

Чорнымі зданямі носяцца
Побач дзіцячыя сны.
Нават на момант здалося мне,
Быццам не будзе вясны.

* * *

Сёння я — сіні лёд.
Заўтра — шэрая слота.
Я не плакаў сто год,
Навучыўшыся лётаць.

Так, не плакаў, але
Не таму, што я дрэнны,
Што халодны, бы снег,
І пусты, як імгненне,

А таму, што не ўсе
Маюць здольнасць убачыць
За слязой, што цячэ,
Горкі боль, а не слабасць.

* * *

Як шкада, што не будзе можна мне
Цалаваць Вашы мілыя вусны,
Што так шчыра са мною мовілі,
І пры гэтым — па-беларуску.

Мне шкада, што наўрад ці ўбачымся.
Можа, толькі калі выпадкова.
Што за доля паэта-няўдачніка
Ад кахання хавацца за словам?

* * *

Часам хочацца думаць аб сонцы,
Толькі ноч на двары.
Пацалункі і слёзы з абсохлых
Вуснаў п'юць ліхтары.

Два паэты спрабуюць за шклянкай
Размаўляць аб душы.
А ў душы за пажоўклай фіранкай —
Камяні і крыжы.

* * *

Я сяджу на даху іроніі
І сачу за дарогай слоў,
Покуль моцна ссівелыя скроні
Не набудуць свой колер зноў.
Непрыгожа, затое весела
З вышыні паглядаць на ўсіх,
Асабліва на думкі смешныя,
Што калісьці сказаў услых.

## Дзень нараджэння

Я зноў прыйшоў у жоўты дом.
Мне восень дзверы адчыніла.
Як добра, хараша і міла
У доме тым, дзе за сталом
Сядзяць мінулыя ўспаміны
І дні ўжо пройдзеных гадоў.

* * *

> Я, гений Игорь Северянин,
> Своей победой упоен:
> Я повсеградно оэкранен!
> Я повсесердно утвержден!
>
> *Ігар Севяранін. Пралог*

Я, геній Анатоль Брусевіч,
Стаю з усмешкай ля акна,
Гляджу, як поўначы сцяна
Халодным ценем спіць на дрэве.
Гляджу, як падаюць лісты
На дол з рукі, нібыта лісце,
Бо неба — гэта больш не выйсце,
А сон — кароткі і пусты.
Гляджу на белы феерверк
І пасміхаюся ад шчасця,
Што Вечны Зніч калісьці згасне,
А ноччу прыйдзе Вечны Звер.
Але смяюся і са Звера,
Бо для паэта ўсё адно.
Стаю, гляджу сабе ў акно,
Я, геній Анатоль Брусевіч.

* * *

Гуляю з паэткаю.
Белымі вершамі воблакі
Плывуць над Гародняю.
Дымлю цыгарэткаю.
Побач гуляюць амёбы
З вачыма халоднымі.
Гуляю з паэткаю,
Ці (не дай Божа) з манахіняй,
Па вулках паношаных.
Сталёваю сеткаю
Неба звісае над дахамі,
Як быццам бы ложак мой.

* * *

Аб сонца завостраны вугал
Разбілася неба начное.
«Кахаю!» — шапталі на вуха
Мне зоркі, спадаючы ў Нёман.
Ды толькі я слаба паверыў —
У зораў халодныя вочы.
З нябёсаў спускалася шэрасць
На чэрап купальскае ночы.

## Воблік Толіка

Воблік Толіка — быццам воблак,
Што заўсёды мяняе твар.
І таму яму вельмі добра
Памнажаць свае дні на два.

І таму яму вельмі зручна,
Нібы ў карты, гуляць у сон.
Воблік Толіка неўміручы,
Толькі словы яго — пясок.

## Пустэча

Пустэча твару не мае,
Пустэча нямая.
Голас пустэчы — вечар.
У чорнай вачніцы студні
Мой твар — ён пусты і сумны.
Пустэчай заўжды сагрэты
Адно дэкадэнты.

* * *

Пажоўклы часопіс лесу
Гартае маўклівая восень,
Рукою халоднаю крэсліць
Пытальнікі і двукоссі.
І поўніцца новым сэнсам
Лістота радкоў забытых.
Пажоўклы часопіс лесу
Чытаю, нібыта малітву.

* * *

Засталася адна толькі радасць —
Цыгарэта і пару запалкаў.
На пашарпаным катафалку
Едзе восень з-за далягляду.

Засталася адна толькі мэта —
Адмаўляць існаванне канонаў,
І, бы яблык, каціцца з адхону
У адхланне вар'яцкага лета.

## Мой шлях

Свет не варты, каб я разбіўся
Аб жалезабетонны быт.
Мне абрыдла сухое лісце
На шляху, што тым больш абрыд.

Я іду па халодных сходах,
Што вядуць у краіну сну.
Сярод ценяў чужых мелодый
Я ніяк не знайду сваю.

Мой знявечаны, шэры голас
Быў у момант забіты той,
Калі слава лахудрай голай
Пацягнулася ўслед за мной.

Мёртвы вецер на чорных крылах
Мне прыносіць ахвярны дым.
За душою паўзе магіла,
Праглынаючы ўсе сляды.

* * *

Свет даўно разваліўся на часткі:
Між мінулым і цьмяным будучым —
Рэчаіснасці страшная пастка,
У якой плача дух неўміручы.
У нябёсах памерлі аблокі.
Смокча сонца іх трупы чорныя.
Позірк жаху ляціць высока.
Позірк Бога глынае прорва.

## За дзвярыма

Адчынены дзверы. За імі,
Нібыта акцёры на сцэне,
Хістаюцца сінія цені
У страшнай і злой пантаміме.

Зачынены дзверы. Ды толькі
Праз вока замочнай шчыліны
Мелодыя злой пантамімы
Варушыцца ржавай іголкай.

* * *

Усміхаецца брат лістапад
Нам усмешкаю першага снегу,
І плывуць ліхтары, нібы крыгі,
Патанаючы ў нашых слядах.
Я хачу менавіта вось так
Патанаць у вачах тваіх сініх
І смяяцца бурштынавым смехам,
Як смяецца мой брат лістапад.

* * *

Я — рака,
Правы прыток Стыксу.
Ты — рака,
Левы прыток Леты.
Наракаць —
Значыць не знаць сэнсу:
У радках —
Толькі абрыс мэты.
Мы плывём.
Кожны ў сваё мора.
Мы ляцім.
Кожны ў сваё пекла.
Чалавек —
Гэта адбітак хворы
Уяўлення Бога
Пра чалавека.

* * *

Гнілая восень сімвалам кахання
Ляжыць на белым вобліку зімы.
З мяне ізноў смяецца брат мой Каін
З-за кратаў какаінавай турмы.

А я, сляпы, бадзяюся між плітаў
Даўно забытых Вечнасцю кладоў,
Спрабуючы спрухнелыя малітвы
Уваскрасіць у выглядзе радкоў.

Але няма ні сілы, ні жадання
Рабіць жывым халоднае быццё.
З-за кратаў усміхаецца мне Каін,
Бо брат ад смерці ўсё ж такі не ўцёк.

* * *

Там, дзе Стыкс упадае ў Лету,
Дзе канчаюцца ўсе сусветы,
Дзе знікаюць усе пытанні,
Патаемныя мары, жаданні,
Пабудую ахвярнік. На ім
Вечны бог ператворыцца ў дым.

* * *

Я духам злым іду каля цябе
Заўсёды злева ціхаю хадою.
Якое гэта шчасце — быць з табою
І частаваць цнатлівасцю кабет,
Якія праплываюць цераз нас,
Каб піць з вачэй вітрын зімовы вечар,
А потым раставаць сярод пустэчы
І воблік свой у цемру апранаць!

* * *

Зноў мы з табою звязаны
Моваю мёртвых прывідаў.
Скачуць навокал блазнамі
Мроі хвілінаў выпітых.

Як мы маглі, наіўныя,
Зблытаць пустэльню з прорваю?
Студзень сахою сіняю
Нашы сляды заворвае.

* * *

Бадзяюся ў шэрым сусвеце,
Шукаючы нейкае выйсце...
Скажы, калі ведаеш, вецер,
Што ёсць абсалютная ісціна?

Ты кажаш, што ісціна побач —
За першым вуглом далягляду.
Прабач, але ў поглядзе Бога
Я бачу насмешку Пілата.

* * *

Мяне мой шлях заблытаны прывёў
У сумны край, дзе мне наканавана
Зламаць свой лёс аб крылы ветракоў
І адляцець у змрочную нірвану.

І там, на дне пачуццяў і высноў,
Пакуль паходня веры не пагасне,
Я буду не вадою, а віном
Паіць свайго траянскага пегаса.

* * *

На чорна-белым скрыжаванні
Сямі вятроў і трох імгненняў
Сустрэў я жоўтае каханне.
Яно стаяла на каленях.

Мяне здзівіў не светлы позірк,
А валадарскі нож усмешкі.
Я прачытаў у рабскай позе
Намёк спакуслівы і грэшны.

І я смяротна страх параніў
Лязом завостраных імгненняў,
Каб адпачыць на скрыжаванні
Сямі вятроў і свайго ценю.

* * *

П’ю малітву, нібы віно,
Да мяжы, за якой ад Бога
Застаецца адзін вянок
І бурштынавы смак зямнога.

П’ю малітву, і горкі пах
Разліваецца па-над светам.
Усміхаецца моўчкі Вакх
Мне з-за хмараў усмешкай светлай.

* * *

Пакінуўшы пустэчу весялосці,
Самота адышла з маёй душы.
Я бачыў яе згорбленую постаць,
Захутаную ў шэрыя дажджы.

Нібыта маці, скрыўджаная сынам,
Скаваная маўчаннем і тугой,
Яна маю самотную краіну
Зрабіла зноў вясёлай і пустой.

* * *

Апошні лістапад
Спяе нам аб вясне.
Заплачуць ліхтары
Бурштынавым святлом.
У мой самотны дом
Не прыйдуць больш сябры,
Бо самы першы снег
Схавае шлях назад.
Апошні лістапад
Сплывае пакрысе.
За шэрыя муры
Хаваецца сутон.
Халодны ветру стогн
Пілуе сад стары —
На сонечным лязе
Лістоў крывавы рад.

* * *

Мой дом — не дом. У ім цяпер бардэль,
Альбо гатэль для правінцыйных хамак.
А я, нібыта п’яны карабель,
Ніяк сабе не вызначу напрамак.

Куды ісці? Навокал толькі ноч.
Густы туман закрэсліў далягляды.
Жыццё — як чорна-белае кіно,
А я зусім застаўся па-за кадрам.

Мая душа скупалася ў віне
І, нібы камень бел-чырвона-белы,
Упала і стаілася на дне
Прыгожых слоў і позіркаў здранцвелых.

* * *

У доме маім шэрым,
Які збудаваў не я,
Мне адчыняе дзверы
Жанчына, але не мая.

У гэтым змрочным сусвеце,
Поўным халоднай красы,
Гуляюць чужыя дзеці
І мой ненароджаны сын.

* * *

У першых вясновых бясколерных кветках
Стаілася восень.
Вярнуліся птушкі з мінулага лета
У родныя гнёзды.

То вецер з дажджом, то зноў за акном
Прыгожа і ціха.
На плошчы флагштокі з чырвоным сукном
І Ленін, як фіга.

## На могілках

Тут няма цішыні, як думаюць многія.
Тут можна аглухнуць ад кожнай літары.
Іду між магіл і не бачу помнікаў.
Бачу скаргі, і плач, і да Бога малітвы.

Тут няма цішыні. Цішыня схавалася.
Цішыня спачывае на тлумных вуліцах.
Разбіваюцца з гулам каменныя хвалі
Аб скалу цішыні. Няўжо вы не чуеце?

## Шчасце

Вось яно, шчасце, — прачнуцца ранкам
(Бо можна было б зусім не прачнуцца)
І глядзець, як аблокі будуюць старанна
За акном тваім сотні цікавых канструкцый.

Вось яно, шчасце, — летам халодным
Адчуваць цяпло жаночага цела,
Адчуваць на вуснах гарачы подых
І ў кіпені жарсцяў тануць звар'яцела.

Вось яно, шчасце, — апошнія грошы
Аддаць на віно і напіцца да трасцы,
А потым сядзець з тварам паношаным
І думаць: «Няма ніякага шчасця».

* * *

Ідэалы песняю далёкаю,
Бы аблокі, раз — і разляцеліся.
Цела неба, сіняе і лёгкае,
Абдымаю весела ў пасцелі я.

Вось яно — прыгожае і светлае!
Вось яно — і вечнае, і юнае!
Мог бы я назваць яго і Светаю,
Мог бы я назваць яго і Юляю.

* * *

Я піў віно твайго цела,
Ламаючы хлеб дазволу.
Калі душа вар'яцее,
Каханне робіцца голым.

Спыніўся час, хоць гадзіннік
Хвіліны лічыў старанна.
Ты нарадзіла мне сына —
Прыгожы, сонечны ранак.

## Пераходы

Звычайны восеньскі вечар,
Не цёплы і не халодны.
Тут час застыгнуў навечна,
Нібыта смала рэнклёды.

Тут ліпы ажно ў аблокі
Растуць і чуюцца блізка
Нябёсаў сонныя крокі,
Ці, можа, крокі дзяцінства?

Тут вецер заўжды паўночны,
А людзі — як быццам з гліны:
Адныя і тыя ж вочы,
Адныя і тыя ж спіны.

Адсюль немагчыма збегчы,
Цябе дагоніць заўсёды
Звычайны восеньскі вечар,
Не цёплы і не халодны.

Таму стаю сярод дрэваў,
Стаіўшы на момант подых:
Гляджу, як глынае цемра
Мой свет — мае Пераходы.

* * *

Разбіваюцца хвалі аблокаў
Аб крывое люстэрка вады.
Праглынае пясок мае крокі,
Пакідаючы толькі сляды.

Я, нібыта ў кавярні, ад злосці,
На якую не здольны ніхто,
Замаўляю падвойную восень
І п’янею, зрабіўшы глыток.

## За небакраем

Чакаю за небакраем
Галодную зграю дарог.
Смяюся і плачу над краем,
Які падарыў мне Бог.

Іду цэлы час наперад —
Насустрач людскім слядам.
Каханнем робіцца вера,
Салодкім вінюм — вада.

За небакраем сінім
Шапчу жанчыне сваёй:
«Каханая, нашага сына
Народзім не мы з табой.

Не смейся, не плач над краем,
Які падарыў нам Бог,
Таму што за небакраем
Няма ніякіх дарог».

## Рэха

Большасць з нас — гэта словы,
Банальныя, простыя словы,
Што прыйшлі ў галаву выпадкова,
Як падкова,
Што злятае, пасля абяцае
Прывід шчасця паклікаць. Мы — словы,
Адмысловыя, новыя. Нехта
Пракрычаў нас і слухае рэха.

* * *

Хоць шмат было кабет,
Адной табе дазволіў
Навечна адабраць
Адвечны мой спакой.
Усё аддаў табе —
І сны свае, і мроі,
І бэзу сіні пах,
І неба зорны строй.

Усё аддаў, а сам,
Загорнуты ў самоту,
Якую нават ты
Не здолела забраць,
Па вастрыі ляза,
Бліскучым і халодным,
Хаджу туды-сюды,
Як з торбамі жабрак.

* * *

Мне не патрэбна славы.
Слава — золата мёртвых.
Славай латаюць слабасць
Людзі нізкага лёту.

Мне не патрэбны грошы.
Грошы — шчасце для хама.
Цешыцца імі пошла,
Як гандляваць у храме.

Мне не патрэбна ўлады.
Ёю трызняць плебеі.
Зброя для ўлады — здрада.
Буду бяззбройным лепей.

Толькі на гэтым свеце
Мала хто будзе рады
Вымесці з душаў смецце
Славы, грошаў і ўлады.

## Дарога

У пошуках злых парадоксаў
Знаходжу чужыя сляды,
Якія кіруюцца ў восень,
Ці, можа, як я — ў нікуды.

Іду і выходжу на бераг
Забытай усімі ракі.
З вады пасміхаецца шэрасць,
Ашчэрыўшы вершаў радкі.

У кроплі самотнага неба
Люструецца ўсё і нішто
І моўчкі штандарам ганебным
Спадае на позірк-флагшток.

У пошуках злых парадоксаў
Губляецца ўласны мой след.
«Глядзіце, ішоў нехта босы!» —
Усклікне чарговы паэт.

## Варона

Сяджу варонаю аблезлай
На сметніку жыцця, каб там
Спяваць свае дурныя песні
Памыйным цюцькам і катам.

Каб, нагарланіўшыся ўволю,
Расправіць крылы, як арол,
І з выглядам старога воя
Дзяўбсці адходы, што вакол.

А потым сніць зялёны вырай
У чорна-бела-шэрых снах
Або чакаць кавалак сыру,
Што Бог пашле альбо Алах.

## Сады Садома

Квітнеюць сады Садома.
Бы содні, спадае на дол,
На дахі дамоў самотных
Пялёсткаў пяшчотны боль.

Але над садамі Садома
З усмешкай вясёлай Смерць
Трымае асадку поўні
І піша апошні верш

Пра тое, як бацька Кронан
Мяняе адвечны ход,
Каб плыць у сады Садома,
Дзе пчолы збіраюць мёд.

## Дзень шосты

Блукаючы па Варшаве,
Сярод каменнага раю,
У думках я быў не там.
У думках паўстала Ліда,
Ля хатаў, шыферам крытых,
Там вішні спяць на платах,
А каля кустоў парэчак
Спыняецца кожны вечар
Малінавы сонца дыск,
Каб потым, на светлым золку,
Майго цалаваць анёлка
І плыць ва ўсе гарады.

* * *

Запахла восенню нарэшце.
Лістота мае колер смерці.
Ура!

Чырвона-жоўтая свабода
Чакае нас каля ўвахода
У рай.

## 12 верасня

*Бацьку*

Сёння, халодным ранкам,
Звыклым восеньскім ранкам,
Дзеці бягуць у школу,
Людзі ідуць на працу,
Сонца крочыць на захад.
Сёння, днём вераснёўскім,
Дзеці прыйдуць са школы,
Прывалакуцца людзі
З цяжкай штодзённай працы,
Сонца ў небе застыне
Глуханямым маўчаннем.
Сёння, вечарам сінім,
Вечарам самым звыклым,
Людзі з дзецьмі збяруцца
Ў цесных і брудных кухнях,
Каля патэльняў з бульбай,
Каб праглынуць са скваркай
Сонцы смажаных яек.
Заўтра халодным ранкам
Зноў іх чакае школа,
Праца і позірк неба...
Неба ўсіх нас чакае.

* * *

Жыву на жоўтай мяжы
Жывых і мёртвых пытанняў.
Божа, дапамажы
Дажыць да Твайго світання,

Убачыць, як на крыжах
Спачнуць і зноў уваскрэснуць
Светлы і цёмны жах,
І нехта яшчэ трэці.

І можна будзе тады
На жоўтай мяжы стагоддзяў
Збіраць па кроплі гады,
Каб смагу ў смерці спатоліць.

## Дзяды

Над Гародняй у розных кірунках
Праплываюць аблокаў карункі.

Лістапад. У чаканні зімы
Горад стаўся глухі і нямы.

Водбліск свечак апалага лісця
Кліча душы пакутныя з чыстца.

Шэры дождж размывае сляды,
І з вады пазіраюць Дзяды.

## Раманс

Халодным восеньскім ранкам,
Дажджлівым і нецікавым,
Яны сышліся ў кавярні,
Каб выпіць піва і кавы.

Размова іх, нібы лодка,
Хісталася злева направа,
Ды сонца, знішчыўшы слоту,
Заззяла ў «тонкіх бакалах».

І стала размова лёгкай,
А свет увесь — па-за кадрам.
Яна нырнула ў аблокі,
А ён — у гул вадаспада.

Бы прывіды, зніклі пусткі
І пасткі душаў самотных,
І вуснаў чакалі вусны,
Каб зліцца ў танцы салодкім.

А цела прагнула цела,
Каб разам стацца фрэгатам
І плыць праз комплексаў цемру
На выспы вечнага свята.

# Зіма

Зіма. Атрутна-белы снег.
На гэтым фоне ўсё чужое:
Дамы, і постаці людзей,
І нават неба над зямлёю.

Мароз малюе нацюрморт
На шыбах мёртваю рукою,
І ажывае фарбаў лёд,
І шкло становіцца душою,

Таму ні сну, ні слёз няма —
Ёсць толькі бель перад вачыма,
Ёсць толькі вечная зіма,
Зіма, імя якой — Радзіма.

## Ліст у мінулае

Так, па мне сумуюць вар'ятні
Калідоры жоўтыя, шэрыя.
Так, гэта я грукаю ў шатні,
Для людзей не бачныя дзверы.

Там, відаць, пакінуў калісьці я
Паліто, капялюш і нешта там
Яшчэ — можа, срэбнае лісце,
Апалае з клёнаў, каштанаў?

Сяброўка, любая, мілая,
Запалі ўва мне сімвал існасці,
Маладосці апалае лісце,
Што гніе і смярдзіць рыбаю.

Так, я ведаю, не вяртаюцца
Цягнікі ні з лета, ні з восені,
А зіма ламае мне пальцы
І душу, што ў вырай не просіцца.

Сяброўка, пах гэтай шэрасці
Не хоча са мною раіцца
Наконт варыяцый слабасці,
Што я называю смеласцю.

Давай звар'яцеем, любая.
Давай запалім мінулае
Агнём зялёным і сінім.
Я плачу. Бывай. Спалілі.

* * *

Жыццё скончана.
Скотчам залеплены рот.
А вочы сірочым лямантам і матам
расстрэльваюць цішыню.
Цень агню люструецца ў вадзе.
Больш нідзе.
Пацалункам Юды пахнуць стагоддзі.
Годзе сузіраць прыгажосць ружовых зорак!
Зрок мой сам па сабе не сягае туды,
адкуль не зможа вярнуцца.
Жыццё скончана.
Я — самагубца.

* * *

На самае-самае дно пякельнае
Спадзе душа мая белая-белая.
Здзівіцца д'ябал: «Якога чорта?
Спадаюць да нас толькі душы чорныя.
Які нонсэнс! Які парадокс!» —
«Усё нармальна, — скажу, — ад слёз
Жанчыны душа зрабілася белаю.
Яна кахала, а я грэбаваў
Каханнем яе. Цяпер слёзаў соль
На маёй душы, і таму дазволь,
Каб яна, душа мая белая-белая,
Упала спакойна на дно пякельнае».

# Сястра

Сваю малітву падару сястры —
Жаночы голас Бог хутчэй пачуе
І, можа быць, пашле свае дары,
Тады і я таго-сяго скаштую.

А зрэшты, я даўным-даўно адвык
Ад Божай ласкі, веры і любові.
Я ў іх загнаў душы іржавы цвік,
А гэты грэх не змыеш нават кроўю.

Сваю малітву падару сястры,
Бо хто яшчэ памоліцца так шчыра?
Ні ворагі, ні лепшыя сябры...
А сэрца плача — хоча зноў у вырай.

## Бясконцае падарожжа

Аднойчы па хвалях начных навальніц
Адплыў карабель майго дома
У мёртвую далеч, з якой не прыплыць
Назад да бацькоўскіх парогаў.

Ці мог шкадаваць я, што буду вось так
Бадзяцца ад краю да краю
Бясконцых прастораў унутраных шахт
У пошуках пекла і раю?

Ды што шкадаваць? Свае карані,
Якія, змяніўшы на крылы,
Не здолеў ніяк адарваць ад зямлі
Дзядоўскіх замшэлых магілаў?

Няможна ўздымацца вышэй за крыжы,
Што верна вартуюць Радзіму.
Таму і адплыў я ў начныя дажджы
Пад спеў пахавальнага гімну.

* * *

Агідна робіцца ад вершаў,
Якія я пісаў няшчыра,
А толькі каб другіх пацешыць
Бліскучых рыфмаў мутным вірам.

Цяпер хацеў бы перакрэсліць
Калісьці кінутыя словы,
Адмыць ад бруду і ад плесні
Свабоды одум адмысловы.

Але пачварных ценяў зграі,
Якія я зрабіў сваімі,
Пакуль на небе сонца ззяе,
Пільнуюць мной забыты зімнік.

# Твой позірк

У келіху з падвойным дном,
З якога п'ю звычайна шчасце,
Твой позірк пеніцца вінам
Спакусы, слодычы і жарсці.

Нібыта чорны аксаміт,
Ён напаўняе прахалодай
Душу, замененую ў подых,
І выдае жыццё за міф.

Твой позірк велічны, бы верш.
У ім і сонца, і аблокі.
Ён і прыгожы, і высокі,
Як сотні Эйфелевых веж.

* * *

Я разарву залаты пярсцёнак
Соннай арбіты адзінай зоркі,
Каб прачытаць у вачах тваіх цёмных
Светлае шчасце і новы золак.

Я разарву кайданы пачуццяў,
Каб аб'яднаць імгненне і Бога.
Толькі шкада, што нас не пачуюць
Там — на нябёсах, сумных і строгіх.

* * *

Я — хлеб, расцярушаны ў тысячы крошак,
Таму мною можна карміць толькі птушак.

Рассыпце мяне па восеньскіх скверах,
Па вулках радзімы — мокрых і шэрых.

Няхай пакаштуюць белага хлеба
Жыхары невясёлай паловы неба.

* * *

Не магу не пісаць.
Не магу. Не хачу.
Мае вершы — раса,
Што сцякае з ляза
Чорных траваў.
Іх вам не пачуць.
Яны плачуць
Моўчкі
Слязьмі крывавымі.
Ягадамі воўчымі,
Бы ранамі рванымі,
Зіхцяць на паляне
Маёй душы.
Мае вершы —
Вершнікі
Пагоні, якая
Цень даганяе
Праз дні і дажджы.

* * *

Недапітую пляшку сусвету
Я пакіну цвярозым нашчадкам.
Нехта вып'е і стане паэтам —
Памяняе душу на асадку.

Хтосьці вып'е і стане свабодным,
Ашукае і час, і прастору,
І на беразе Буга ці Нёмна
Адбудуе Садом і Гамору.

Нехта вып'е і будзе шчаслівым,
Бо адменіць усе эталоны.
Ну а нехта з нашчадкаў не вып'е
І не скоціцца ў Лету з адхону.

* * *

Залатыя цыбуліны цэркваў
Пачарнелі ў Вялікі пост.
На кальмарах падрэзаных дрэваў
Адплывае зімы хаос.

У прамерзлыя хаты сэрцаў
Праз раскрытыя форткі слоў
Урываецца вольны вецер
Несвабодным думкам назло.

# Бітва

Мае сябры мячы перакавалі
І адышлі ў бліскучыя лугі.
А ворагі наадварот — не сталі
Мяняць мячы стальныя на плугі.

Стаіўшыся, стаю на полі бітвы,
Сціскаю меч, але ржавее ён
І апякае пылам аксамітным
І без таго гарачую далонь.

Смяецца хеўра ворагаў здзічэла
З мяне, майго мяча, маіх сяброў.
Мая ж душа на неба паляцела,
Бо Беларусь паклікала дамоў.

* * *

Чалавек, адказны за Бога,
Пагражае мне пальцам строга.

Я ж, каб ведаць, чаго ён хоча,
У адказ пазіраю ў вочы.

Чалавек, за Бога адказны,
У тым позірку бачыць абразу.

Ён злуецца, што нейкі хлопчык
Не баіцца ўзірацца ў вочы.

Чалавек, адказны за Бога,
Больш прывык, каб глядзелі ў падлогу.

І таму ён пырскае фразай:
«Я ці ты — хто за Бога адказны?»

* * *

Паэзія, вяртаюся з табой,
Нібыта ў сон, у край майго юнацтва,
Дзе мы з маёй названаю сястрой
Упершыню спазналі смак вар'яцтва.

Сястра мая, імя тваё — не Смерць,
Імя тваё — Салодкая Пустэча.
Пытанні «быць-не быць» і «мець-не мець»
У тую ноч звязала ты навечна.

І я, бы ў казцы, тое даў табе
У вечны дар, пра што зусім не ведаў,
Каб плыць з табой па белай прасціне
У край, што спіць між восенню і летам.

* * *

Ідзе за мной услед касцісты,
бледны труп, —
Як цень, — за мной, пры мне,
куды я ні ступлю.
*Янка Купала*

Ішоў за чалавекам бледны труп
З дзіцём у лапах і шаптаў упарта:
«Любіць радзіму і кахаць сястру —
Удзел адзінак, скончаных вар'ятаў».

А чалавек крычаў яму ў адказ:
«Сястры не маю, маю толькі брата.
Ды і радзіму бачыў, можа, раз,
Таму не тут шукаеш ты вар'ята!»

Але не чуў яго касцісты труп,
Ішоў за чалавекам, нібы варта,
І ўсё шаптаў: «Радзіму і сястру
Кахаюць толькі самыя вар'яты».

Нарэшце ў чалавека знік настрой
(Хто ж любіць, калі трупы ходзяць ззаду?).
І ён сказаў: «О, так! Я спаў з сястрой.
Яшчэ я патрыёт! Цяпер ты рады?»

І засмяяўся дзікім смехам труп:
«Не пазнаеш? То я — твая Радзіма!
Ты спаў са мной. Вазьмі сваю сястру,
Што я табе, сыночак, нарадзіла».

## Еўропа

Еўропа — малая радзіма паэтаў,
Якія не мелі радзімы вялікай.
А можа, і мелі (у выглядзе гета,
У подыху цела пад меддзю вярыгаў).

Еўропа, вітай і мяне, свайго сына,
Як іншых, што коцяцца ціха з адхону,
З абдымкаў вялікай радзімы-жанчыны,
Якой прысягалі на вернасць да скону.

Ды толькі згубіліся словы сляпыя
У пошуках вечна цвярозай свабоды.
Застыгла Еўропа пад тоўшчаю пылу,
Бы рыбіна ўзімку пад шыбаю лёду.

## Адаму Міцкевічу

Ён ніколі не жыў сярод нас.
Гэта мы між ягоных радкоў
Звілі хаткі, нібы вераб'і пад арліным гняздом.
Так знікае стагоддзяў сцяна
І вяртаецца Слова ізноў
На Літву-Беларусь, у бацькоўскі пакінуты дом.
Ён ніколі не жыў сярод нас,
Хоць і жыў, безумоўна, для нас.
Але мы, як звычайна, не верым прарокам сваім.
Зноў глухая сцяна падымаецца з чорнага дна
Дзён былых, незваротных, самотных, салодкіх,
як дым.

# Мастацтва

Пустэча заплакала.
Горкія слёзы свабоды,
Бы зерне, ўзышлі на раллі
Адзінокай душы.
Сырымі запалкамі
Грэцца — ці ж гэта работа?
Давай лепш падпалім кілім,
Сатканы з прыгожай ілжы!
«Яго не падпаліш!
Агонь не захоча гарэць, —
Сказала Мастацтва
З усмешкай, падобнай на сталь, —
Пустэчу на памяць
Падорыць пісьменніку Смерць,
Калі развітацца
Надумае з ёю Мастак».

* * *

Я ведаю: скончыцца восень,
І зноўку рубіны рабін
Запаляць сваё безгалоссе
На крылах зімовых галін.

Сплятуцца душы далягляды,
Змяшаюцца ночы і дні.
У шэрых вачах лістапада
Застынуць сірочыя сны.

І будзе прыгожа, і міла,
І чыста, нібы за сталом.
Захочацца збегаць па мыла
У краму за першым вуглом.

* * *

Гэты свет — нібы камень на шыі.
Толькі вершы ратуюць душу.
Але ўсё, што кажу і пішу,
Тоне ў небе, нібыта ў памыях.

Раскрываюцца вочы сляпыя.
Я братам безгалосым шапчу:
«Гэты свет — нібы камень на шыі.
Толькі вершы ратуюць душу».

## Позірк у паўзмрок

Дзве тысячы ценяў мінулага часу
Свідруюць сляпымі вачыма мой дом.
Я дом збудаваў на руінах палаца.
Таго не даруюць мне цені гадоў.

Я зблытаў іх планы, прымусіў бадзяцца
У пошуках марных уласных слядоў.
Ды цені надзеі і веры не трацяць,
Што змогуць калісьці патрапіць у дом.

Магчыма, патрапяць, калі я стамлюся
Глядзець, не адводзячы зроку, ў паўзмрок,
Сачыць, як шкілеты наіўных ілюзій
Згараюць у вогнішчы пыльных дарог,

Як плачуць нікім не зачатыя дзеці
Ва ўлонні пустэчы, а слёзаў нулі
Са смеццем мяшае гарэзлівы вецер
І носіць па ўсёй неабдымнай зямлі.

* * *

Вандрую па белай рацэ
Насустрач пашарпаным содням,
У левай трымаю руцэ
Вясло я, а ў правай — паходню.

Нясуць мяне хвалі ракі
Туды, дзе канцы і пачаткі,
Бы змеі, плятуцца ў клубкі,
А памяць становіцца ватняй.

Мяне там сустрэнуць сябры —
Нявольнікі ўласных ілюзій.
Іх вёслы зламаны аб быт,
А Зніч ім захаркалі людзі.

Аддам ім агонь і вясло,
А сам захлынуся ў чаканні,
Што вершы напіша пясок,
Які пад маімі нагамі.

* * *

Босая восень параніла ногі
Аб камяні гарадоў.
Бачыш, як цягнецца проста ў аблокі
Знак ад крывавых слядоў.

Там, на нябёсах, ціхіх і сонных,
Раны загояць вятры.
Вернецца восень. Заўтра ці сёння
З ёю спаткаешся ты.

## Танец смерці

Танец смерці —
Нібы таннае віно —
Цяжка п'ецца,
Але лёгка валіць з ног.

Мы з табою
Гэты танец п'ём да дна.
З галавою
З намі тоне наш падман.

З ліхтарамі
Разбіваецца аб світ
Нашых кармаў
Аксамітны сталактыт.

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 32

**Брусевіч** Анатоль Аляксандравіч

**АПОШНІ ДЗЕНЬ**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактары *А. Пашкевіч, Б. Пятровіч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*
Дызайн вокладкі *А. Лазара* (adliga.com)

Падпісана да друку 19.12.2012. Фармат 80x100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 6,29.
Ул.-выд. арк. 2,2. Наклад 300 ас. Зак. 934.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.